


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 11 (200) ЛІПЕНЬ 2015 ГОДА

БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА

**Не на ўсякую хваробу лекі знойдуцца**

ВЫБАРЫ – 2015

# АБМЕЖАВАННЕ ПРАВА НА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ

**Леанід Гаравы актывіст "Руху "За Свабоду!", сябра БСДП (Грамада) звярнуўся да старшыні Пятра Каробчыца, старшыні Гарадоцкага райвыканкаму з патрабаваннем спынення дзейнасці асобаў, якія з 23 ліпеня маюць намер парушаць права грамадзян на свабодныя выбары**

Справа ў тым, што адказныя работнікі Гарадоцкага райвыканкаму размясцілі на афіцыйным сайце Гарадоцкага райвыканкаму і ў раённай газеце "Гарадоцкі веснік" ад 21 ліпеня інфармацыю ў нататцы "Удакладненне спісаў выбаршчыкаў":" Вместе с тем, идёт уточнение устных и письменных просьб избирателей, которые по состоянию здоровья или по другим уважительным причинам не смогут в день выборов прийти в помещение для голосования и желают проголосовать по месту их нахождения."

Між тым Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у арт. 65 гарантуе: "Выбары з'яўляюцца свабоднымі: выбаршчык асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах і за каго галасаваць.", а Выбарчы Кодэкс Рэспублікі Беларусь у арт. 5 таксама сцвярджае, што выбаршчык асабіста рашае ці ўдзельнічаць яму у выбарах і за каго галасаваць.

Артыкул 54 ВК РБ рэгламентуе працэдуру галасавання па месцы знаходжання выбаршчыка. Менавіта участковая камісія па просьбе выбаршчыка спачатку ўключае яго ў спіс для галасавання па месцы знаходжання, а потым абавязана ў дзень выбараў арганізаваць галасаванне па месцы знаходжаннявыбаршчыкаўадпаведнасці з захаваннем усіх патрабаванняў дзеючага Кодэксу. Выбаршчыкі, якія па стану здароўя або па іншых паважлівых прычынах не здолеюць прыйсці ў дзень выбараў у памяшканне для галасавання, могуць, але не абавязаны звяртацца ў камісію, бо валодаюць правам асабіста рашаць ці ўдзельнічаць яму ў выбарах.

Леанід Гаравы лічыць, што з'явіўшаяся інфармацыя прамое сведчанне таго, што пад час удакладнення спісаў выбаршчыкаў з 23 ліпеня па 9 жніўня пэўныя асобы будуць выконваць абавязкі участковых камісій, што з'яўляецца грубым парушэннем права грамадзян на свабодныя выбары.

Праваабаронца кажа: "Дзеючы кіраўнік краіны Лукашэнка А.Г. не аднойчы заяўляў, што на тэрыторыі Беларусі абавязкова павінна выконвацца беларускае заканадаўства. Мне не вядома выказванне Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, якое магло бы быць ЗАКОНАМ для кіраўніцтва Гарадоцкага райвыканкаму, што з 23 ліпеня па 9 жніўня 2015 года неабходна ўдакладняць вусныя і пісьмовыя просьбы выбаршчыкаў, якія да стварэння участковых камісій ужо жадаюць галасаваць па месцы знаходжання ў дзень выбараў. Тут хутчэй мясцовае самаўпраўства і элементарнае неведанне нормаў і літары выбарчага заканадаўства адносна права на свабоду выбару пры галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыка ў дзень выбараў з боку дзяржаўных службоўцаў райвыканкаму, якія па сваіх абавязках гэта павінны ведаць. Гэтыя дзеянні вядуць да таго, што яшчэ да датэрміновага галасавання напрыклад больш 320 грамадзян з Гагарынскага участка, дзе быў старшыня Пётр Прасолаў, на мясцовай кампаніі 2014 года "звярнуліся" ў камісію, каб галасаваць дома. У папярэдніх кампаніях такіх грамадзян тут было ў 4-5 разоў менш."

Леанід Гаравы, актывіст "Руху "За свабоду!" патрабуе ад старшыні Гарадоцкага райвыканкаму неадкладна з 23 ліпеня спыніць дзейнасць на тэрыторыі Гарадоцкага раёна асобаў, якія па даручэнню Гарадоцкага райвыканкаму ўдакладняюць вусныя і пісьмовыя просьбы выбаршчыка, якія да стварэння участковых камісій ужо жадаюць галасаваць па месцы знаходжання ў дзень выбараў, бо ведаюць што 11 кастрычніка не здолеюць прыйсці на ўчастак для галасавання па стану здароў'я або з іншай паважлівай прычыны.

Адначасова з гэтым актывіст патрабуе прынесці неадкладнае прабачэнне выбаршчыкам Гарадоцкага раёна на адпаведных месцах афіцыйнага сайта Гарадоцкага райвыканкаму *http://gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/vub2015-ru* і газеты "Гарадоцкі веснік" – старонка першая правы бок у рубрыцы "Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" за дэзінфармацыю наконт ўдакладнення вусных і пісьмовых просьбаў выбаршчыкаў, якія да стварэння участковых камісій ужо жадаюць галасаваць па месцы знаходжання ў дзень выбараў. Таксама праінфармаваць выбаршчыкаў аб праве на свабодныя выбары з адмовай у галасаванні і дакладныя нормы ВК РБ арт. 54 аб галасаванн па месцы знаходжання, калі выбаршчыкі могуць, але не абавязаны, звяртацца вусна ці пісьмова ва ўчастковую камісію, якая мае пэўны адрас і пэўны тэлефон і будзе працаваць адпаведна графіка зацверджанага Цэнтрвыбаркамам.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

БЯСПЕКА РУХУ

# ДАРОГА З АМАЛЬ НЕБАЧНАЙ РАЗМЕТКАЙ

**У гэтым годзе да сёняшняга часу не адноўлена дарожная разметка на той частцы вуліцы Камсамольскай якая вядзе да райбальніцы і лыжаролернай трасы.**

Звычайна дарожнікі аднаўленне дарожнай разметкі пасля зімы імкнуцца завяршыць да дня Перамогі. Так і было зроблена на цэнтральных вуліцах Гарадка: Баграмяна – Пралетарская – Невельская шаша – Гагарына. Праўда было зроблена з памылкамі асабліва ў раёне крамы "Юбілейны".

А вось вуліца Камсамольская ў той частцы, што ідзе ад Баграмяна да райбальніцы і лыжаролернай трасы так і засталася з амаль сцертай дарожнай разметкай пасля зімы. Перад "Дажынкамі" на гэтай частцы зрабілі трохпалосны рух, дэманструючы гасцям сучасную дарогу да лыжаролернай трасы. Але летам на трасе ніякіх істотных спаборніцтваў не было і гэта частка вуліцы засталася амаль без разметкі.

На Камсамольскай не абазначаны "зебрай" пешаходны пераход каля ветэранскага дома.

Таксама няма разметкі і на пад'ёме з крутым паваротам да райбальніцы.

Толькі мінулагодняя дарожная разметка прысутнічае на дарозе ў самым маладым мікрараёне Гарадка па вуліцы Камсамольскай, дзе зараз шмат дзяцей бавяць летнія канікулы.

Відавочна, што эканомія на фарбе не той кошт, які трэба аддаваць за пагаршэнне бяспекі дарожнага руху на вуліцы Камсамольскай, якая вядзе да райбальніцы. Проста певень шчэ не клюнуў адказных работнікаў дарожнага руху.

**Л. Антонаў**

ПАЛЯВАННЕ

# АУКЦЫЁН НА 18 ТЫСЯЧ ГЕКТАРАЎ

**Гарадоцкі раённы выканаўчы камітэт па даручэнні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта 28 жніўня праводзіць аўкцыён па прадастаўленні ў арэнду паляўнічых угоддзяў фонду запасу з тэрмінам арэнды не менш за 10 гадоў.**

На гэты гандаль выстаўляюцца паляўнічыя ўгоддзі агульнай плошчай 18279 га, у тым ліку: лясных - 12153 га, палявых - 5326 га, водна-балотных - 800 га. Паляўнічыя ўгоддзі маюць наступныя межы:

паўночная: ад кальца акруговай аўтадарогі М-8 (Хамякова) па дарозе г. Гарадок-Вярэчча да населенага пункта (далей - н.п.) Прывальні;

ўсходняя: ад н.п. Прывальні па лясной дарозе ў кірунку паўднёва-усходу, якая праходзіць па заходняй мяжы квартала (далей - кв.) 11 праз кв. 38 Смалоўская лясніцтва; кв. 66, 74, 82 Вярэчскага лясніцтва ДЛГУ «Гарадоцкі лясгас» і далей па кв. 20, 21, 26 Канашынскага лясніцтва ДЛГУ «Суражскі лясгас» да перасячэння лясных дарог (не далёка ад возера Тросна) кв. 26, у якім перасякаюцца лясныя дарогі.

паўднёвая: ад перасячэння лясных дарог кв. 26 па лясной дарозе праз кв. 26, 25, 24, 13 Канашынскага лясніцтва ДЛГУ «Суражскі лясгас», кв. 55 Вярэчскага лясніцтва ДЛГУ «Гарадоцкі лясгас», перасякаючы раку Грамаць (урочышча Рудня) і далей па лясной дарозе праз кв. 6, 15, 14, 25, 24, 35, 34, 47, 51, 50, 61 Пальминского лясніцтва ДЛГУ «Гарадоцкі лясгас» да н.п. Сюбараўка і ад н.п. Сюбараўка па грунтавай дарозе да н.п. Кабішча і ад яе па асфальтаванай дарозе праз н.п. Пальмінка, н.п. Хартово да н.п. Залучча;

заходняя: ад н.п. Залучча па асфальтаванай дарозе Р-115 Віцебск-Гарадок (ПК31 + 384) далей па рацэ Чарняўка да чыгуначнага моста, далей па рацэ Чарняўка да акруговай аўтадарогі М-8 (ПК47 + 803), далей па акруговай аўтадарозе М-8 да кальца Хамякова.

Пачатковы кошт аб'екта таргоў 68.964.840 рублёў. Задатак уносіцца ў памеры 20 (дваццаці) працэнтаў пачатковай цаны аб'екта аўкцыёну 13.792.968 рублёў.

Дагавор з пераможцам аўкцыёну заключаецца Віцебскім абласным выканаўчым камітэтам у тэрміны устаноўленыя заканадаўствам.

Для ўдзелу ў аўкцыёне ў тэрмін па 24 жніўня 2015 да 11.00 неабходна прадаставіць камісіі па арганізацыі і правядзенні таргоў, па адрасе: г. Гарадок, ул.Пралетарская, 2, каб.205, каб.109 дакументы: заяву, біёлага-эканамічнаек абгрунтаванне, копія плацежнага даручэння, квітанцыі або іншага дакумента, што пацвярджае ўнясенне сумы задатку.

Аукцыён адбудзецца 28 жніўня 2015 г. у 14.00 у будынку Гарадоцкага райвыканкама, размешчанага па адрасе: г. Гарадок, ул.Пролетарская, 2 (малая зала, каб.110)

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварэецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАВІНЫ ФУТБОЛА

# ПАЦЯРПЕЛІ ПАРАЗУ З БУЙНЫМ ЛІКАМ

**18 ліпеня ў чэмпіянаце Віцебскай вобласці па футболе «ФК «Прамень» прайграў у Дуброўна мясцоваму «Дняпру» з лікам 3: 7.**

Чарговы матч для нашых футбалістаў быў прынцыповым у барацьбе за трапленне ў чацвёрку лепшых каманд ўсходняй групы. ФК »Днепр» - леташні чэмпіён Віцебскай вобласці і з'яўляецца сур'ёзным супернікам, з якім нашым футбалістам не атрымліваецца зguляць на роўных. Пры актыўнай гульні ў цэнтры наша абарона раз за разам дапускала памылкі, якімі скарысталіся гаспадары і нанеслі «Лучу» буйное паражэнне з хакейным лікам 7: 3.

Трэнер «Праменя» Сяргей Куракоў так ацаніў матч УКантакце: «Сёння атрымалі цяжкае паражэнне. Але лік не па гульні. Рэалізуй ў першым тайме некалькі галявых момантаў, усё магло быць па іншаму. Пры не дрэннай гульні ў цэнтры, правалілiся ў абароне. Кожны матч здымаем на відэа, таму ва ўсіх ёсць магчымасць ацаніць сваю гульню. У нас шмат маладых гульцоў, якія ў далейшым, з кожнай гульнёй, будуць дадаваць. Наперадзе яшчэ шмат гульняў, каб выправіць сітуацыю. »- http://vk.com/luch_gorogok

**Днепр (Дуброўна) - Прамень (Гарадок) -7-3.**

Галы: Жогаў (Шыла), Дашкевіч (Пенальці), Самарын (Жогаў).

Склад: Палавінскі - Дашкевіч, Калтуноў, Андрэйчанка, Самсаненка - Шыла, Рудоў (Мочкін), Аўсяннікаў, Жогаў, Самарын - Жарнасек.

На гэтым тыдні стала вядома аб правядзенні гульняў на Кубак Віцебскай вобласці па футболе. У розыгрышы Кубка прыме ўдзел 9 каманд. У чвэрцьфінале нашы футбалісты згуляюць на сваім полі 2 жніўня з ФК «Прыазер'е»(Верхнядзвінск), які гуляе ў другой лізе чэмпіянату Беларусі.

**Л. Антонаў**

БРАКАНЬЕРСТВА

# КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА НА ВІЦЯБЛЯНІНА

**Чарговая крымінальная справа на віцябляніна, які нанёс шкоду больш чым на 20 мільёнаў рублёў. Супрацоўнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыя затрымалі віцябляніна са стаўнымі сеткамі і ацанілі нанесеную шкоду ў сярэднім па 1млн. 80 тысяч за асобіну.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі 16 ліпеня работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі па ахове жывёльнага і раслiннага свету на возеры Белым затрымалі віцябляніна, які рыбачыў чатырма стаўнымі сеткамі. Парушальнік вылавіў 14 асобін ліня і 5 асобін карася залатога.

Гарадоцкі раённы адзел Следчага камітэту вырашае пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч. 2 арт. 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконная здабыча рыбы, якая пацягнула нанясенне шкоды ў буйным памеры - 114 базавых велічынь: 20 млн. 520 тысячрублёў.Дадзеныартыкул прыдугледжвае штраф, або арышт на тэрмін да 6 месяцаў, або абмежаванне волі да двух гадоў, або пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў.

**Т. Гаражанка**

ПРАБЛЕМА АЛКАГАЛІЗМУ

# ЛПП: ЛЕКАВАНЬНЕ ЦІ ПАКАРАНЬНЕ?

**Віцебскія праваабаронцы распачалі працу па высвятленню умоў вакол лячэбна-працоўных прафілакторыяў і змясцілі на сваім сайце інфармацыю аб становішчы з ЛПП. У гэтым артыкуле з www.youtube.com маецца тры відэа-расповеда грамадзян з Гарадоцкага раёна, якія пабывалі ў ЛПП.**

**...Сыстэма набірае абароты**

Зрэшты, нягледзячы на тое, штосыстэмалячэбна-працоўных прафілакторыяў у Беларусі так і не была скасаваная, адразу пасьля 1991 году суды не вельмі часта накіроўвалі грамадзян у ЛПП. Сытуацыя пачала мяняцца на пачатку 2000-х гадоў, і апошнімі гадамі савецкая практыка «лекаваньня» хворых на алькагалізм праз працатэрапію набывае ўсё большы і большы размах.

З павелічэньнем колькасьці рашэньняў пра накіраваньне людзей на прымусовае «лекаваньне», што прымаюцца судамі, паўстала неабходнасьць у адкрыцьці новых прафілакторыяў. Калі да 2003 году ў краіне дзейнічалі толькі 2 установы – у Сьветлагорску і Навагарадку, то праз 5 гадоў, у 2008 годзе, іх колькасьць была ўжо ў 2 разы большая. Сярод іх – першы жаночы ЛПП, у вёсцы Старасельле Горацкага раёну.

Пятай па ліку ўстановай, што пачала дзейнічаць у краіне, стаў Віцебскі ЛПП № 4. Указ аб яго ўтварэньні быў падпісаны Лукашэнкам у сьнежні 2008 году, і ў сакавіку 2009 году ён быў адкрыты.

Адпаведна росту колькасьці ЛПП расьце і колькасьць «пацыентаў». Паводле адкрытых крыніцаў, у 2008 годзе ў ЛПП адначасова «лячыліся» 3700 чалавек. Пад канец кастрычніка 2009 году гэтая лічба складала ўжо каля 4700. А на сённяшні дзень кантынгент павялічыўся да 6700 чалавек.

Апошнімі гадамі суды выносілі рашэньняў аб накіраваньні ў ЛПП больш, чымся апошнія маглі прыняць, дык што нават утварылася «чарга», у якой будучыя «пацыенты» чакалі зьмяшчэньня ў прафілакторыі да некалькіх месяцаў. У сувязі з гэтым у 2014 годзе было прынятае рашэньне аб павелічэньні колькасьці ўстановаў адразу на 3 – з 6-ці да 9-ці. Гэтыя 9 лячэбна-працоўных прафілакторыяў, у тым ліку 3 жаночых, дзейнічаюць і цяпер.

**Віцебшчына – лідэр па колькасьці ЛПП**

Што тычыцца Віцебскай вобласьці, то яна знаходзіцца на першым месцы сярод усіх абласьцей краіны па колькасьці ЛПП. Апроч згаданага ЛПП № 4, тут ёсьць яшчэ ЛПП № 9 (Віцебск) і ЛПП № 8 (Наваполацак).

ЛПП № 9 прызначаны для жанчын. Гэты прафілакторый быў створаны як філіял ЛПП № 4 у 2013 годзе на базе выхаваўчай калёніі № 1 для непаўнагадовых злачынцаў і нядаўна быў пераўтвораны ў асобную ўстанову.

Наваполацкі ЛПП № 8 зьявіўся на месцы ліквідаванай папраўчай калёніі № 10 увосень 2014 году, якая была вядомая сваёй дрэннай экалёгіяй. Вось што казала пра гэтую калёнію маці палітвязьня Ігара Аліневіча, які сядзеў у ёй, Валянціна Аліневіч: «Гэта хімічная лябараторыя ўсёй Беларусі. Яна знаходзіцца паміж заводамі "Палімер" і "Нафтан", там няма травы і дрэваў. Людзі выходзяць на пэнсію раней і атрымліваюць надбаўку за шкоднасьць, там экалягічна шкодная зона. Трэба забараніць утрымліваць там людзей. Там жорсткае паветра, і тыя, хто прыходзіць на спатканьне, пачынаюць кашляць».

Наўрад ці з пераўтварэньнем гэтага месца з калёніі ў ЛПП экалягічная сытуацыя ў ім палепшылася, але, відаць, улады мяркуюць, што для хворых на алькагалізм падвышэньне імавернасьці захварэць яшчэ на што-небудзь праз дрэнная экалягічнае асяродзьдзе не зьяўляецца чымсьці важным.

**Расповеды людзей**

Толькі некалькі чалавек зь ліку тых, з кім нам удалося паразмаўляць, пагадзіліся распавесьці на відэакамэру пра свае зносіны з супрацоўнікамі аховы правапарадку і досьвед знаходжаньня ў ЛПП.

З Аляксандрам Яўгенавічам мы сустрэліся празь некалькі дзён пасьля суду. Рашэньне аб яго накіраваньні ў ЛПП на той час яшчэ не набыло законную моц, і ён дагульваў апошнія дні на волі. Судовую пастанову аб прымусовым «лекаваньні» вырашыў не абскарджваць, бо палічыў, што карысьці ад гэтага ня будзе, таму ня варта марнаваць грошы на дзяржаўную пошліну за падачу скаргі.

Працуе ў саўгасе паляводам. Прагулаў ці спагнаньняў на працы ня меў. На суд прыходзіў яго начальнік, даў свайму работніку добрую характарыстыку і прасіў, каб яго пакінулі на волі, але гэтая просьба не паўплывала на рашэньне судзьдзі.

Аляксандар мае судзімасьць. Менавіта гэтым ён тлумачыць асаблівую ўвагу да яго з боку міліцыі, якая, паводле ягоных словаў, адмыслова лавіла яго. Ён распавёў, як колішні ўчастковы падбухторваў жанчын – ягоных знаёмых, каб тыя вывелі яго з кватэры, калі той быў выпіўшы, каб схапіць яго ля пад'езду, «у публічным месцы». Жанчыны на гэта не пайшлі, а на наступны дзень пра выпадак расказалі Аляксандру.

Іншы выпадак: «У мяне лецішча ў трохстах мэтрах ад дому. Выпіў там шклянку гарэлкі, другую пабутэлькі панёс дадому. Яны ўбачылі, што я выйшаў зь лецішча і спынілі на паўдарогі».

Апошні раз Аляксандра злавілі, калі ён выпіў піва і выйшаў у краму па цыгарэты. Тэст паказаў зьмест алькаголю ў крыві 0,8 праміле. Гэтага хапіла, каб «зарабіць» пратакол аб чарговым правапарушэньні.

Потым была мэдычная камісія: «У мяне проста здароўе правяралі. Паслухалі сэрца, ціск памералі – і гэта ўсё».

Гэтай працэдуры лекарам, відаць, хапіла, каб прыйсьці да высновы пра тое, што Аляксандар пакутуе на хранічны алькагалізм і, разам з тым, ня мае захворваньняў, якія перашкодзілі б яго знаходжаньню ў ЛПП.

Мікалай Іванавіч (імя зьмененае) – «абавязаная» асоба, мусіць сплачваць дзяржаве грошы на ўтрыманьне дзіцяці. У ЛПП пабываў ужо некалькі разоў. Кажа, што міліцыянты літаральна цкуюць яго, урываліся нават да яго ў хату: «Калі нават дыхнуў на іх півам – забіраюць адразу».

Мікалай распавёў пра апошні выпадак, як яго бралі: «Сябра ў мяне быў выпіўшы. Я зь ім прайшоўся, давёў яго дадому. Вяртаюся. Яны стаялі на дарозе. Я да іх падыходжу – яны ўключаюць фары – бах, і ўсё! Нават хату не зачыніў, там печка тапілася, тэлевізар працаваў».

Уладзімеру Міхайлавічу 59 гадоў. Калісьці скончыў Ленінградзкую мараходную вучэльню. Хадзіў на суднах Латвійскага марскога параходзтва за мяжу. Потым разьвёўся з жонкай, цяпер жыве адзін. Мае дарослага сына, які жыве ў Аўстраліі.

«Мяне і Міхалку ўзялі ў доме – і адразу на суткі. Ня мелі права, але што ж – гэта міліцыя. АМАП прыехаў. Вось амапаўцы нас і забралі», – расказаў Уладзімер. Здаецца, выпадкі, калі супрацоўнікі аховы правапарадку наведваюцца да людзей дадому, каб скласьці на іх пратакол «за зьяўленьне ў п'яным выглядзе ў публічным месцы», – не такая ўжо рэдкасьць.

Да таго Ўладзімер ужо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці, бракавала яшчэ аднаго разу для адпраўкі яго ў ЛПП. Па ўсёй імавернасьці, супрацоўнікі не хацелі доўга чакаць, калі ён трапіцца ім на дварэ ў стане, што пасуе для складаньня пратаколу, і таму вырашылі паскорыць працэс.

**Як у турме**

Тое, што ў назве ўстановаў для прымусовай ізаляцыі хворых на алькагалізм прысутнічае слова «прафілакторый», не павінна ўводзіць у зман. Умовы знаходжаньня ў ЛПП зусім не нагадваюць звычайны прафілакторый, у які людзі набываюць пуцёўкі, каб паправіць там сваё здароўе. Шмат з колішніх «пацыентаў», зь якімі аўтару гэтых радкоў давялося сустрэцца падчас падрыхтоўкі публікацыі (сярод іх былі і тыя, хто прайшоў ня толькі ЛПП, але і папраўчыя калёніі), параўноўвалі ЛПП з турмой.

Паколькі ЛПП знаходзяцца ў падпарадкаваньні ДВП МУС, няма нічога дзіўнага ў тым, што шмат што тут нагадвае зону: рэжым перасоўваньня па тэрыторыі строга рэглямэнтаваны – строем ходзяць нават у сталоўку, за парушэньні рэжыму – спагнаньні аж да зьмяшчэньня ў дысцыплінарны пакой (па сутнасьці, аналяг штрафнога ізалятару або карцэру).

Уладзімер Міхайлавіч: «Усё – абсалютна як на зоне. Пад'ём – а 7-й. Дакладней, а 6-й падняліся, потым – туалет і ўсё такое. Пасьля – пастраеньне, праверка, строем мусіш ісьці, калі па адным – "не положено". З сабой абавязкова павінна быць картка. Калі яе няма, кантралёр абавязкова прычэпіцца – і, вось, калі ласка, ужо маеш пакараньне».

«Пражываньне ў сэкцыях. Гэта як клясы ў школе, толькі адмыслова абсталяваныя: у два ярусы ложкі. У адным пакоі – недзе нават па сорак чалавек зьмяшчалася. У нас было дваццаць чатыры».

Праўда, ня ўсё дрэнна. Мікалай Іванавіч на пытаньне пра побыт адказаў коратка: «Умовы побыту – нармальныя. Кармілі як на зарэз». З апошнім сьцьверджаньнем ня згодзен Уладзімер: «Кармёжка – жахлівая, амаль як на зоне». Зрэшты, мужчыны «сядзелі» ў розных установах, гэтым, магчыма, і тлумачыцца розьніца ў іхных ацэнках. Дый Мікалай, калі разгаварыўся, адзначыў, што былі пэўныя невыгоды: «Душ – паводле раскладу. З душу бываe, што ідзе толькі халодная вада. А бывае наадварот, гарачая – кіпень». *(скарочана)*

**Кастусь Дзьвінскі**
**Віцебская вясна**

ПРАВА ВЫБАРУ

# ВЫБАР НАРОДА, БЕЗ УДЗЕЛУ НАРОДА

**Артыкул 3 Канстытуцыі абвяшчае, што адзінай Крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту Беларусі з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй.**

Якія выдатныя і галоўнае зразумелыя словы! 11 кастрычніка пройдзе знамянальная падзея ў жыцці Рэспублікі Беларусь. Народ, выкарыстоўваючы сваё канстытуцыйнае права, абярэ на бліжэйшы 5 гадоў кіраўніка краіны, якому даверыць частку сваіх правоў і паўнамоцтваў. Для гэтага шмат не трэба - трэба проста прыйсці і прагаласаваць. А каб не было сумневаў у выніках выбараў, іх трэба правесці адкрыта і галосна, паводле выбарчага заканадаўства.

Але калі даходзіць да справы, зыходзячы з вопыту назірання за папярэднімі выбарамі (ад фарміравання выбарчых камісій да падліку галасоў), разумееш, не вельмі-то і патрэбен народ для вызначэння вынікаў галасавання.

У камісіі трапляюць «праверaныя байцы», якія ходзяць пад сцягамі лаяльных арганізацый «Белая Русь» і БРСМ, а таксама палітычных арганізацый тыпу Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі ці Аграрнай партыі. Але калі прыглядзецца бліжэй і вывучыць месцы працы чальцоў гэтых партый і арганізацый, то замест спартсменаў, камуністаў і «камсамольцаў» апынецца - «О, цуд!» - працоўны калектыў сярэдняй школы, альбо прамысловага прадпрыемства.

Як правіла, кіруе такой камісіяй альбо дырэктар, альбо яго намеснік, а ў якасці сакратэтара кантралёра, каб усё праходзіла як трэба, але толькі не ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, - прадстаўнік мясцовага выканкама.

Падлік галасоў - гэта асобная песня. Здавалася б, прасцей простага ўзяць бюлетэнь выбаршчыка і паказаць усім сябрам камісіі, а таксама назіральнікам, за якога кандыдата чалавек паставіў галачку. З гэтым справіцца любы школьнік, аднак, як паказвае вопыт назірання за выбарамі, з гэтым не могуць справіцца дарослыя людзі, якія часта вучаць тых жа школьнікаў.

Вось і думаеш, чаму яны могуць навучыць падрастаючае пакаленне, калі самі не могуць выканаць артыкул Выбарчага кодэкса, дзе гаворыцца аб адкрытасці і галоснасці выбараў. Атрымліваецца, што вучаць ўтоенасці, хітрыкаў, падману? Няма! Няма! І яшчэ раз няма!

Кожны член камісіі лічыць свае бюлетэні і раскладвае іх па стосах, а затым шэптам або паперкай паведамляе старшыні камісіі свае вынікі (чамусьці заўсёды шэптам і заўсёды індывідуальна). Старшыня камісіі запісвае іх, а затым разам з сакратаром, які часцей за ўсё аказваецца кантралёрам ад выканкама, сумірoўюць і абвяшчаюць вынік выбараў на ўчастку! Колькі ж людзей за каго прагаласавала, не ведаюць ні назіральнікі, ні, як ні дзіўна, шараговыя сябры камісіі ...

Як з гэтым змагацца? Кожнаму з нас трэба зрабіць першы крок - стаць назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах ад кампаніі назірання «Права выбару-2015». Толькі разам можна змяніць гэтую заганную сістэму і зрабіць так, каб выбар народа ніхто не змог выкрасці.

**Алесь Сілкоў**




НАША ЎЛАДА

# ДЕПАРДЬЕ КАК ПРИГОВОР

**Нет, это не шутка. Президент Беларуси приглашает известного французского актера, чтобы поговорить о сельском хозяйстве и научить косить траву.**

Если честно, мне сложно понять мотивы обоих участников этого загадочного действа. Пиар? Так ладно бы французского гостя сводили в театр и познакомили с лучшими образцами белорусского искусства. Любимый многими актер потом прилюдно бы восхитился, СМИ радостно написали, электорат поставил бы галочку в списке "уважаемых" друзей руководителя.

Но нет. Депардье зачем-то тащат (или он сам туда тащится) в коровник, где восхищается бабами и молоком. А на закуску получает мастер-класс "навыков ручной косьбы" от президента.

Зачем это нужно Депардье и главное — зачем это нужно Александру Лукашенко, у которого на носу очередные выборы, для меня загадка. Неужто Депардье в коровнике и с косой — это хорошая иллюстрация достижений белорусского лидера? Или в стране, кото-рую сотрясает серьезнейший кризис, нет сейчас более важных проблем чем научить экстравагантного актера косьбе? На месте министра сельского хозяйства я бы, кстати, напряглась…

Хотя последние сообщения с политических полей, все больше напоминают какое-то затянувшееся 1 апреля. Вспомнить хотя бы недавний прием вице-президента Зимбабве по прозвищу «Крокодил», с которым глава Беларуси собрался всесторонне сотрудничать.

В общем, с чувством юмора у властей, похоже, все в порядке. Хотелось бы оценить и остальные навыки. А то еще немножко — и Депардье с косой станет приговором для белорусской экономики.

**Светлана Метёлкина**




НАШЫ МІЛЬЯНЕРЫ

# НА ЧЫМ ЗАРАБЛЯЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ МІЛЬЯНЕРЫ?

**Плынь турыстаў, якія прыязджаюць на адпачынак у Беларусь, змялела праз крызіс у Расіі. Аднак патэнцыял «цуду некранутай прыроды» застаецца вялікім. Яго спрабуюць выкарыстоўваць беларускія мільянеры. Якія праекты яны рэалізуюць і колькі плацяць у бюджэт за арэнду лясоў і азёр?**

**Возера Машэнскага**

Вось ужо некалькі гадоў жыхары Брэста наракаюць, што не могуць адпачыць на сваім любым Белым возеры. На вадаём, які знаходзіцца за 35 км ад абласнога цэнтра, іх не пускаюць ахоўнікі: маўляў, прыватная тэрыторыя.

Зямлёй карыстаецца самы вядомы брэсцкі бізнэсмен — Аляксандр Машэнскі, уласнік рыбнага «Санта-Брэмара» і малочнага «Савушкавага прадукту».

Яшчэ ў 1990-я гэтыя 2,5 гектара водааахоўнай зоны Белага возера атрымала Брэсцкая райспажыўкааперацыя, аднак у 2008 годзе перапрадала яе Машэнскаму, які вырашыў заняцца турыстычным бізнэсам.

Непадалёку ад возера ён пабудаваў люксавую базу адпачынку «Шале Грынвуд» (можна перакласці як «сельскі домік у швейцарскім стылі, пабудаваны ў зялёным лесе»). Гэта два дзясяткі гатэльных нумароў, а таксама рэстаран італьянскай кухні і лазня. За начоўку гаспадары просяць нямала — $ 80. Аднак госці застаюцца задаволенымі. У папулярным інтэрнэт-каталогу гатэляў booking.com «Шале Грынвуд» мае адзнаку 9,4 па 10-бальнай сістэме.

Машэнскі наракаў, што яму давялося ўкласці шмат грошай у інфраструктуру. Аднак умовы, на якіх ён летась атрымаў у арэнду яшчэ 8,5 гектара зямлі, выглядаюць звышвыгаднымі. За велізарны абшар лесу з выхадам да возера бізнэсмен плаціць… каля $ 110 на месяц. Дамова арэнды заключаная на 100 гадоў у беларускіх рублях, таму чынам, інфляцыя патрохі з'ядае і гэтыя грошы.

**Яхт-клуб Тапузідзіса**

Грэк Павел Тапузідзіс, які нарадзіўся ў Грузіі, таксама аблюбаваў беларускія азёры.

У канцы 2000-х ён узяўся пабудаваць аздараўленчы комплекс на возеры Мядзел, суседнім з Нараччу. Аднак у выніку атрымалася толькі нешта падобнае на прыватную рэзідэнцыю. Адпачыць звычайнаму турысту на турыстычнай базе Тапузідзіса не ўдасца. За 90 сотак, адведзеных для будаўніцтва, кампанія «Тытунь-Інвест» штогод плаціць за зямлю «,87 USD». Акурат так, з коскай на пачатку.

Затое іншы турыстычны аб'ект Тапузідзіса, гатэль «Робінсан Клаб» на беразе Мінскага мора (Заслаўскага вадасховішча), адкрыты для наведнікаў з 2011 года. Напрыклад, тут звычайна спыняецца футбольная зборная Беларусі.

Пракат яхт, катараў і нават верталётаў — такі набор забавак знойдзецца мала дзе ў Беларусі. А яшчэ ў «Робінсан Клабе» ёсць свая канцэртная пляцоўка.

Тапузідзіс арандуе зямлю, каля 10 гектараў, на традыцыйныя 99 гадоў. І плаціць нямала — больш за $ 18 тысяч у год, прычым у валюце.

**Гарналыжны курорт Чыжа**

Гарналыжны комплекс «Лагойск», які належыць самаму багатаму беларускаму бізнэсмену Юрыю Чыжу, адкрыўся дзесяць гадоў таму. «Лукашэнка катаўся на лыжах у расійскай Краснай Паляне і літаральна загарэўся ідэяй стварэння такога цэнтра ў нас. Сказаў мне: «Юра, там мне аўстрыйцы ўвесь час мазгі дураць наконт будаўніцтва ў Лагойску гары, з'ездзіў бы ты, паглядзеў на тыя месцы і прыкінуў, што там можна зрабіць». Я прыкінуў іх моцныя і слабыя бакі, каб чужых памылак не паўтараць, а калі саспеў канчаткова, сказаў прэзідэнту, што «Трайпл» за гэта возьмецца. Прэзідэнту мае довады здаліся пераканаўчымі, і ён даў дабро», — расказваў Чыж гісторыю стварэння «Лагойска». У склад комплексу ўваходзяць гатэль і рэстаран.

Цікава, што за зямлю Чыж не плаціць. Распараджэннем Аляксандра Лукашэнкі бізнэсмен атрымаў 50 гектараў у пастаяннае карыстанне.

Іншае рашэнне кіраўніка дзяржавы датычылася будоўлі на малой радзіме мільянера, каля вёскі Сабалі Бярозаўскага раёна.

Паводле ўказа, «турыстычны культурна-этнаграфічны комплекс «Наш родны кут Сабалі» меўся быць дабудаваным у 2015 годзе. Пад будоўлю Чыжу выдзялялася 333,4 гектара зямлі.

Аднак замоўленым тэмпам працы мільянер пакуль што не дае рады. Створаная ім кампанія «Буслоўка» арандавала ўсяго каля 10 гектараў (штогадовая плата — каля 22 мільёнаў рублёў). У полі відаць толькі запраўку ды некалькі хатак.

**Паляванне Шакуціна**

Чым можа пахваліцца Аляксандр Шакуцін, дык гэта самым статусным кіраўніком свайго турыстычнага бізнэсу. Сёлета кампанію «Шантэр» (расшыфроўваецца як «Шыкоўны Адпачынак На ТЭрыторыі Радзімы») узначаліла Наталля Пяткевіч, былая памочніца Аляксандра Лукашэнкі.

Кампанія аб'яднала некалькі турыстычных аб'ектаў, раскіданых па ўсёй краіне. Шакуціну і яго бізнэс-партнёрам належаць база адпачынку «Рудакова» на Нарачы (дарэчы, побач з рэзідэнцыяй Тапузідзіса), санаторый «Пралеска» пад Мінскам і дзіцячы лагер «Даманава» ў Маладзечанскім раёне. Гэтыя аб'екты знаходзяцца на балансе «Амкадора» ўжо даўно.

А вось апошнім часам Шакуцін і яго наваполацкі кампаньён Мікалай Варабей спецыялізуюцца на паляванні і рыбалцы. Яны ў роўных долях валодаюць кампаніяй «Інтэрсэрвіс», якая арандуе 58,6 тысячы гектара тэрыторыі заказніка «Красны Бор» ў Верхнядзвінскім і Расонскім раёнах.

Ласі, дзікі, казулі — лік жывёлаў ідзе на сотні. Агучваліся нават планы разводзіць зуброў. Знаходжанне ў гэтым раі для паляўнічага каштуе дорага. Цэны ў мясцовым гатэлі пачынаюцца ад $ 200 за ноч.

Асобная крыніца даходаў — платная рыбалка. Для гэтых мэтаў «Інтэрсэрвіс» арандаваў шэсць азёраў непадалёку ад мяжы з Расіяй.

**Ягор Марціновіч**
**«Наша ніва»**

АБІТУРЫЕНТ – 2015

# ПОСТУПИТЬ НА БЮДЖЕТ, НАБРАВ 71 БАЛЛ

**Последний день приема документов на бюджет — 15 июля — показал, что не всем белорусским вузам хватило студентов. Университеты вынуждены брать даже тех, кто набирает меньше 100 баллов из 400. Особенно низкие проходные баллы в региональных вузах.**

Naviny.by подвели предварительные итоги поступления на бюджет по данным на 15:00 15 июля. После этого часа информация о ходе подачи заявлений не обновляется. В 18:00 приемные комиссии прекратят выдавать документы для подачи на другую специальность, но продолжат принимать у поступающих, которые успели зайти в здание вуза.

**Национальные университеты план, скорее всего, выполнят**

Биологический факультет Белорусского государственного университета заполнит бюджетные места, будут студенты и на платном отделении. К 15 часам было подано 203 заявления, а набрать планируется 156 человек на бюджет и 126 на платную форму. Судя по тому, как складывается конкурс, стать студентом этого факультета можно, набрав не менее 245 баллов.

Наберет бюджетников и исторический факультет — уже подано 124 заявления, а на бюджете 90 мест. Самые высокие баллы у трех абитуриентов — от 371 до 380, самые низкие — от 131 до 140.

Механико-математический факультет, скорее всего, заполнит все места — и платные, и бесплатные: на 200 бюджетных и 10 платных мест претендует 253 абитуриента. Судя по всему, непроходными станут баллы ниже 160.

Почти такая же ситуация на факультетах прикладной математики и информатики, радиофизики и компьютерных технологий.

Самые высокие баллы в БГУ у абитуриентов, которые подали документы на факультет международных отношений. У четырех баллы выше 391. На этом факультете будут заполнены бюджетные места, но платные, вероятнее всего, не все. Например, на специальность «международные отношения, международное право» есть 24 бюджетных и 124 платных места, а заявлений только 64.

Среди естественнонаучных специальностей самые высокие баллы у абитуриентов на химическом факультете — трое набрали выше 391 балла. Столько же у одного поступающего на факультет прикладной математики. Еще один абитуриент, поступающий на бюджет, имеет баллы выше 391 на факультет журналистики.

Впечатляют баллы абитуриентов, поступающих в Белорусский государственный медицинский университет. У двух баллы выше 391, у 21 — от 381 до 390, у 35 — от 371 до 380, у 61 — от 361 до 370. Судя по динамике подачи документов, будут заполнены и бюджетные, и платные места.

В БГУИР заполнены практически все бюджетные места, самый высокий проходной балл сформировался на специальности «экономика электронного бизнеса» (364) и «программное обеспечение информационных технологий» (360).

**Уровень базовой подготовки будущих педагогов катастрофически падает**

Белорусский государственный педагогический университет вновь принимает на некоторые специальности (14 из 28) без вступительных испытаний абитуриентов, окончивших школу с золотой или серебряной медалью, а также тех, кто окончил ссузы с отличием.

В 2014 году такой возможностью воспользовались и подали документы 79 медалистов и отличников. Это в четыре раза больше, чем в 2013-м ранее. В этом году хотят стать педагогами 117 медалистов, но без экзаменов пока только порядка 60.

Судя по активности абитуриентов, бюджетные места будут заполнены, но при этом баллы поступающих порой удручают. Например, на 125 бюджетных мест физико-математического факультета подано 106 заявлений, из которых у одного абитуриент менее 100 баллов, у шести — 111-120, у 12 — 121-130. Только один абитуриент, поступающий на этот факультет, может похвастаться приличной суммой баллов — 361-370.

На факультет начального образования подали документы 172 человека на 105 бюджетных мест, из которых только 35 человек набрали более 200 баллов.

На специальность «логопедия, олигофренопедагогика, сурдопедагогика, тифлопедагогика» высокие баллы (331-340) только у одного абитуриента. Еще двое поступающих на исторический факультет набрали 321-330 баллов.

**В регионах стать студентом еще проще**

Абитуриенты, поступающие в региональные вузы, демонстрируют очень низкий уровень подготовки.

Так в Барановичском университете на инженерном факультете на специальность «информационные системы и технологии» подано больше заявлений, чем есть бюджетных мест (59 против 36). При этом, судя по баллам, студентом можно стать, набрав 145 баллов, а на специальность «экономика и организация производства (машиностроение)» достаточно 120 баллов.

Самые низкие баллы у абитуриентов инженерно-педагогического факультета Мозырского государственного педагогического университета, студентами которого могут стать два абитуриента, набравших 71-80 баллов, пять — 81-90, шесть — 91-100, два — 101-110 баллов. Здесь на 30 бюджетных мест на специальности «профессиональное обучение (строительство)» и «профессиональное обучение (агроинженерия)» подано 18 заявлений. Так что если придет абитуриент с еще меньшими баллами, его примут с распростертыми объятиями.

Кроме того, в университете остались три места на бюджет на «математику и информатику», а также одно место на «русский язык и литературу».

В Гродненском государственном университете на все факультеты, за исключением физико-технического, количество поданных заявлений больше, чем бюджетных мест.

**Читать полностью: http://naviny.by**



РАШЭННЕ САЎМІНА

# НЕ ВЫДЕЛЯТ ДЕНЬГИ НА ПОХОРОНЫ ТУНЕЯДЦЕВ

**Правительство Беларуси утвердило новое положение о порядке выплаты гражданам пособия на погребение и порядке возмещения расходов на погребение специализированной организации.**

Положение утверждено постановлением Совета министров №585, текст которого опубликован на Национальном правовом интернет-портале, и вступило в силу с 12 июля 2015 года.

Согласно документу, пособие выплатят в случае смерти:

— застрахованных граждан,

— граждан, которые не были застрахованы, но в течение не менее десяти лет уплачивали взносы за государственное социальное страхование,

— пенсионеров,

— официально зарегистрированных безработных,

— несовершеннолетних детей граждан, относящихся к вышеперечисленным категориям,

— а также обучающихся — студентов дневной формы обучения.

Госпособие на погребение будет выплачиваться гражданину, который взял на себя организацию похорон. Исключение составляют лица, которые имеют право на возмещение расходов на погребение в соответствии с обязательным страхованием от несчастных случаев на производстве и профзаболеваний. Выплату пособий будут осуществлять местные органы соцзащиты.

Перевод пособия за пределы Беларуси производиться не будет, кроме некоторых исключений.

Положение определяет также порядок выплаты пособия и порядок возмещения расходов на погребение специализированной организации.

Размер пособия представляет собой среднюю заработную плату рабочих и служащих в республике за позапрошлый месяц относительно месяца наступления смерти. В мае 2015 года эта сумма составила 6,5 млн. рублей.

«Прям прет забота в лице самого социально-ориентированного государства в Европе»

Данная новость вызвала бурное обсуждение в Байнэте. Вот что пишут на форуме TUT.BY

«А земельные участки хоть выделят? Или тоже нет?»

«Вот чёта мне кажется, что умершему всё равно, как и что будет с его телом, или чиновники по-другому считают?»

«Капец. Теперь к брошенным младенцам добавятся выброшенные мертвые взрослые. Куда катимся?»

«Прям прет забота в лице самого социально-ориентированного государства в Европе»

«На смертном одре теперь надо звать не священника, а соцработника, что б успел зарегистрировать официально безработным».

«Можно просто складировать сабж под зданием парламента, сами грабли придумали, вот пускай сами этими граблями по лбу и получают»))

«Собственно к чему эти полумеры? Запретите продавать еду тем кто официально не работает, отключите свет и воду.Есть только один вопрос: а миллионы безработных уже власть не пугают?А что как они объединятся и начнут безобразничать?»

«И такие вот законно-перлы перед выборами)))))Видно этим хотят поднять процент голосующих за них))))))))))))))))))»

**Марина Светлова**
**http://gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.07.2015 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.